# Мінскі гадзіннікавы завод

На праспекце Імя Сталіна ў Мінску, насупраць парка імя Чэлюскінцаў узвышаюцца вялікія шматпавярховыя будынкі Гэта першыя корпусы будуемага тут Дзяржаўнага Мінскага гадзіннікавага завода У шостай пяцігодцы гэта буйнейшае прадпрыемства будзе ўведзена на поўную магутнасць. Пачынаючы з 1960 года, завод штогод будзе выпускаць два мільёны штук наручных жаночых гадзіннікаў „Мінск".



*На здымку: Зборачны цэх. Пульсуючы канвеер для зборкі гадзіннікаў.*

Гадзіннікі будуць высокай якасці на 16 рубінавых камнях мініятурных размераў з заводам на 30 гадзін

Асобныя дэталі гадзіннікаў настолькі малыя, што іх немагчыма разгледзець простым вокам. Такая дэталь, як вось баланса, напрыклад, мае даўжыню 3,13 міліметра, а дыяметр цапфаў, размешчаных на канцах восі, роўны 0,08 міліметра. Вага гэтай дэталі складае ўсяго толькі 0,005 грама. У адным напарстку змяшчаецца некалькі дзесяткаў тысяч такіх дэталей.

Для будаўніцтва завода адведзена пляцоўка ў 10 гектараў. Тут будуць узведзены 13 будынкаў, агульнай плошчай каля 40 тысяч квадратных метраў, у тым ліку пяць вытворчых корпусаў, лабараторыя, заводаўпраўленне, тэхнічнае вучылішча на 240 чалавек, сталовая на 400 месц і інш.

У канцы мінулага года быў пабудаван і пушчан ў эксплуатацыю першы механічны корпус. У ім размешчаны зборачны, механічны і інструментальны цэхі. У гэтым годзе ўступяць у строй яшчэ два вытворчыя корпусы.



*На здымку: Работніца Ларыса Мачальская правярае вібрацыю валаска на спецыяльнай прыладзе.*

Адначасова з будаўніцтвам завода рыхтуюцца і кваліфікаваныя кадры Яшчэ ў мінулым годзе 310 чалавек былі абучаны на Пензенскім гадзіннікавым заводзе. Усе яны працуюць на маладым прадпрыемстве ў якасці зборшчыкаў, лабарантаў, слесараў - інструментальшчыкаў, наладчыкаў аўтаматаў і токараў.

14 снежня 1955 года на заводзе быў пушчан першы канвеер. Цяпер у цэху зборкі працуюць 10 пульсіруючых канвеераў. Калектыў прадпрыемства вырашыў давесці выпуск гадзіннікаў у другім квартале гэтага года да 600-700 штук у дзень.

Для вырашэння гэтай задачы распрацаван і ажыццяуляецца рад арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў. На прадпрыемстве арганізавана сетка школ тэхмінімуму Сістэматычна вывучаюцца, абагульняюцца і шырока распаўсюджваюцца сярод рабочых перадавыя метады працы. Аналізуюцца прычыны адставання па асобных аперацыях, вышукваюцца шляхі іх ліквідацыі.

На прадпрыемстве працуе пераважна моладзь. Каля 300 комсамольцаў настойліва змагаюцца за павышэнне прадукцыйнасці працы. Многія з іх перавыконваюць вытворчыя нормы. Набыты вопыт яны ўмела перадаюць нядаўна прынятым на канвеер вучням-зборшчыкам.

Вялікая ўвага на прадпрыемстве ўдзяляецца якасці выпускаемай прадукцыі. Справа ў тым, што пападанне ў механізм гадзіннікаў у часе зборкі найдрабнейшай пылінкі выклікае астаноўку яго работы або ў лепшым выпадку, прыводзіць да вяласці ходу. Залішняя вільготнасць, пераменная і нізкая тэмпература ў цэхах таксама адмоўна адбіваюцца на якасці прадукцыі. Усё гэта патрабуе стварэння ў цэхах асаблівых умоў.

У зборачным цэху многа святла, падтрымліваецца ідэальная чыстата і пастаянна тэмпература. Ліналеўмавыя падлогі сістэматычна пакрываюцца тонкім пластам машыннага масла. Гэта забяспечвае акумуляцыю пылу, які збіраецца два-тры разы ў дзень. Усе работнікі цэха працуюць ў чыстых, белых халатах і касынках і ў спецыяльных скураных тапачках. Работнікам абавязкова робіцца манікюр. Не менш двух разоў у змену зборшчыкі праціраюць кісці рук 0,5-працэнтным растворам фармаліну.

Змагаючыся за паспяховае выкананне плана шостай пяцігодкі, рабочыя і інжынерна-тэхнічныя работнікі завода няспынна працуюць над удасканаленнем вытворчасці, укараненнем новай тэхнікі і перадавой тэхналогіі Група інжынераў працуе над выбарам лічыльных аўтаматаў для ўліку дэталей масавай вытворчасці. Канструктары завода распрацоўваюць новы прыбор для выпрабавання гадзіннікаў і інш

У механічным і інструментальным цэхах ідзе асваенне вытворчасці вымяральнага і рэжучага інструменту.

Калектыў будаўнікоў і рабочыя прадпрыемства аднадушна вырашылі закончыць будаўніцтва і асвоіць яго на поўную праектную вытворчую магутнасць датэрмінова — да канца 1959 года.

Г МАЖАЕЎ,
дырэктар Мінскага гадзіннікавага завода



*На здымку: Механічны цэх. Работніца Ларыса Казімірская пратočвае плаціны гадзіннікаў на такарна-расточным поўаўтамаце.*

## Навіны навукі і тэхнікі

### ТРЫ УРАДЖАІ БУЛЬБЫ У ГОД

Неабходна адразу агаварыцца — гэты спосаб вырошчвання бульбы нельга прымяняць на вялікіх масівах калгасных палёў, дзе амаль усе работы праводзяцца машынамі. У гэтым-жа выпадку пры дапамозе трактара можна толькі падрыхтаваць глебу пад пасеў, а ўсе астатнія работы трэба праводзіць асцярожна, уручную.

Новы спосаб вырошчвання бульбы, прадстаўляючы вялікае значэнне для агароднікаў, вельмі просты і шырока даступны. У лункі, размешчаныя ў квадратах 60 на 60 сантыметраў, саджаюцца цэлыя, не разрэзаныя клубні, якія перад тым неабходна яравізаваць. Клубні ў лунках трэба змяшчаць ростком уверх. Захаванне гэтых двух умоў скарачае перыяд росту і паспявання бульбы больш чым на два тыдні Прыкладна за 12 дзён да ўборкі першага ўраджаю ў міжрадкоўі высаджваецца другая чарга клубняў, а затым, такім-жа чынам трэцяя чарга. Прымяняючы раннеспелыя гатункі бульбы, можна з тойжа плошчы зняць на працягу лета паслядоўна тры ўраджаі.

Цікава адзначыць, што аўтарам новага спосабу з'яўляецца пенсіянер Г. Ф Шапаярын, які працаваў раней простым рабочым пры Навукова-даследчым інстытуце бульбянай гаспадаркі. Вынікі працы агародніка-вопытніка зацікавілі прафесара А. Г. Лорха і пазней заслужылі высокую ацэнку Вучонага савета інстытута.

### СІЛА ЭЛЕКТРЫЧНАЙ ІСКРЫ

Ленінградскі інжынер Л. А. Юткін працуе над вывучэннем дзеяння электрычнай іскры, якая ўзнікае ў вадкім асяроддзі.

Вучоны прадбачыў, што іскра павінна раптам рассунуць часцінкі вады, якія, у сваю чаргу, павінны аказаць імгненны ціск на сценкі сасуда — гідраўлічны ўдар. Аднак доўгі час вопыты не пацвярджалі гэтых меркаванняў. У выніку ўпорнай працы Л. А. Юткіну ўдалося пабудаваць такі прыбор, пры дапамозе якога іскра праскаквае ў вадзе з вельмі вялікай хуткасцю. Пры гэтым вакол іскры не паспяваюць утварыцца пар і газы, сярод часцінак вады на працягу вельмі малай долі секунды ўзнікае свабодная поласць. У выніку гэтага часцінкі вады з велізарнай сілай ударяюць у сценкі сасуда, які разлятаецца, як пад дзяннем узрыву. Гэта з'ява названа электрагідраўлічным эфектам.

Пры дапамозе электрагідраўлічнага эфекта можна разбурыць любы цвёрды мінерал, дэфармаваць кавалак любога металу, калі яны знаходзяцца ў тым-жа вадкім асяроддзі, у якім узнікае іскра. Калі гідраўлічныя ўдары паўтараць вельмі хутка, ад іх рассыпаюцца ў дробны парашок нават такія цвёрдыя целы, як карунд.

С. ЯНОВІЧ

## Родная глухамань

(1)

Вечарэла. Праменісты дыск сонца кранаў ледзь усхваляваныя, цёмназялёныя нівы збожжа. Недзе з-за кустоў бэзу пачаў падзьмуваць прыемны, халаднавы, вечаровы ветрык. Ад недалёкіх зараснікоў хмызняку пацягнула вільгаццю. Пагоднае, чыстае неба прадракала ясную ноч.

Пятро раскошна расцягнуўшыся на лавачцы са здавальненнем пазяхаў ды бесклапотна пазіраў недзе ў блакітную бездань неба. У густой сетцы галля аднекуль з'явілася рухлівая хмарка камароў і перасцерагальна спынілася якраз насупраць пятровага позірку.

— Трэба будзе зараз пайсці ў вёску — меркаваў. Досыць ужо гэтай пустой бяздзейнасці. Невядома толькі ці застану ў хаце Янка... гэта невядома...

Здалёк пачуліся нечыя крокі, потым рыпнулі веснічкі, потым нехта прыпыніўся за агарожай насупраць буйнага куста ружы... і шматзначна кашлянуў.

Зацікаўлены Пятро прыпадняў галаву і па-над кустом ружы ўбачыў усміхаючыся, заліты праменнямі заходзячага сонца, твар Янкі.

— Бач ты яго. Вось як прымасціўся. Проста дачнік — засмяяўся Янка. Ну, ну ўставай, хопіць камароў лічыць, а то стомішся... і так не палічыш.

— О!... аб ваўку думаю, а воўк тут — узрадаваўся Пятро, паціскаючы руку Янка. Добра, што з'явіўся, а то я ўжо страціў надзею, што застану цябе дома. Хадзем да нас. Зараз трэба будзе некуды накіравацца.–Ды што тут накіроўвацца. Ідзі апранайся і пойдзем у клуб. Ужо згадзілі гарманіста на ўсю ноч. Ідзі, ідзі хутчэй, апранайся — загаварыў Янка.

У клубе было амаль пуста. Ля ўвахода стаяла толькі некалькі дзяўчат ды юнакоў. Музыкант яшчэ не прыйшоў. Вядома, часу было досыць. На дварэ не пачало яшчэ нават змяркацца.

— Пакуль зыйдуцца, давай пагуляем у шашкі — запрапанаваў Янка.

Падцягнуўшы бліжэй вакна шахматны столік, расселіся на хістаючыхся зэдліках і пачалі выймаць з шуфляды ды расстаўляць пешкі.

— То як там у цябе Янка, сэрцовыя справы. Нешта не ўспамінаеш. Як гадуецца Алёна? Мы-ж ужо цэлых два тыдні не бачыліся. А тыдзень гэта так вялікі шмат часу, што магло здарыцца бог ведае што — прывычна пачаў распытваць сябра, Пятро.

— А вось, усё як след Пятрочак. Алёна ўчора паехала на вяселле. Стрыечны брат жэніцца — паведаміў таварыша Янка. Ты лепш расказаў-бы як там у цябе стаяць справы ў Беластоку. Апошні час ты нешта рэдка пачаў прыязджаць у сваю вёску. Мусіць не маеш часу — хітра закончыў.

Пятро намерыўся штось адказаць, як пачуліся за акном шматлікія галасы, потым у дзвярах з'явілася рослая постаць музыканта з чамаданам пад пахою, а за ім вясёлыя твары аднавяскоўцаў.

Клуб пачаў хутка запаўняцца гаманлівай моладдзю. Раптам прарэзліва зайграў гармонік, а праз хвіліну паліліся галосныя, шпаркія гукі полькі.

Пятро не ўмеў і па-праўдзе кажучы, не вельмі любіў гэты жвавы, борздкі танец. У астатніх гадах знаходзячыся ў горадзе, можна сказаць і цалкам адвык ад бадзёрай полькі.

— Ідзем Пятро, ты бяры гэтую чорную, а я другую — хутка загаварыў Янка.

— Не, не Янка. Я трохі так пабуду... я-ж адразу так не магу... ну, ведаеш мяне... ідзі, ідзі я... я разгледжуся трохі — загарачыўся Пятро, адыходзячы ўбок.

Калі толькі сціхлі гукі полькі, Янка хутка падыйшоў да Пятра.

— Ты, Пятро слухай... Хадзі пазнаёмлю цябе з адной. Добрая дзяўчына. Яна з Зарэчан... Дагэтуль да нас амаль не прыходзіла... Вось, стаіць там, паглядзі... во, во гэтая другая справа... першая Люба, а другая яна... што?

Пятро спярша крыху разгубіўся ад нечаканай прапановы Янкі, але пасля цікаўна зірнуў на яе...

— Ну што-ж, хадзем... — і няўпэўнена пакрочыў услед за Янкам.

— Маё прывітанне вам, дзяўчаткі — жартоўным тонам пачаў Янка сваю місію, па чарзе вітаючыся з кожнай. Вось пазнаёмся, Марыся, гэта мой лепшы сябра і саратнік, Пятро Рамейчук.

Пятро ўвесь чырвоны, збянтэжана глядзеў ў праменістыя, бурштынавага колеру, марысіны вочы, на яе гладка прычэсаныя шатэнавыя валасы з акуратным, роўным радком пасярэдзіне і злёгку пакручаныя над ілбом, на яе гладкі, загарэлы лоб, на дзе-ні-дзе пакрытыя вяснушкамі шчокі, на кшталтны нос, на ледзь прыкметна дрыжачую ад нечаканасці бародку, на роўную, натуральную лінію ружовых губ, на поўныя, хвалюючыя грудзі...

— „Вечар ціхай песняю над ракой"... дзесь ля дзвярэй пад меладычныя гукі гармоніка, незладжана зацягнуў любімую песню хор юнакоў і дзяўчат.

— Прашу, Марыся — нязграбна схіліўшыся, прамовіў Пятро.

Ці то з невыноснай духаты ў зале ці то ад нахлынуўшага хвалявання Пятру закруцілася ў вачах. У няспешлівых рытмах танца бачыў перад сабой толькі белыя, павольныя плямы твараў сваіх аднавяскоўцаў і... і чуў... адчуваў усёй сваёй існасцю прыемную цяплынь марысіных грудзей. Залётна казыталі твар кучарыкі яе валасоў...

— „Як я не мог яе спаткаць раней... як я не заўважыў яе, я-ж неаднаразова быў у Зарэчанах... ну яна мабыць была яшчэ тады маладзенькая, але... але потым..." — ліхаманкава разважаў Пятро асцярожна ставячы крокі ў рытм мелодыі. „Як я..." — гармонік неспадзявана змоўк. — „Ужо так хутка" — падумаў адхіляючыся і нерашуча прытрымаў яе далонь.

— Дзякую, Марыся...

Працяг будзе

